


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (1136) ГОД XXII БЕЛАСТОК 4 СНЕЖНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




*Група дзеячоў БГКТ, якім былі ўручаны значкі „Заслужаны для Беласточчыны“.*

## УРАЧЫСТЫ ПЛЕНУМ ГП БГКТ

13 лістапада г.г. Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ўрачыстым пленарным пасяджэннем адзначыла 60-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Урачыстасць, якая адбылася ў будынку ГП БГКТ, адкрыў старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Ён з асаблівай сардэчнасцю прывітаў, запрошаных на гэтае пасяджэнне, заслужаных дзеячоў рэвалюцыйнага руху: Лідзію Бялецкую з Беластока, Івана Чыквіна з Дубіч Царкоўных і Уладзіміра Харкевіча з Міхнаўкі (госці таксама атрымалі кветкі).



*Выступаюць „Каласкі“ з Беластока.*

Затым адбылося ўручэнне ўзнагарод. Рашэннем Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку група дзеячоў БГКТ была ўзнагароджана залатымі і сярэбранымі значкамі „Заслужаны для Беласточчыны“. Залатыя значкі атрымалі: вядомая актывістка з Гарадка Ніна Мушынская і старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, сярэбраныя — Ніна Аверчук з Арэшкава, Кастусь Мацько з Саколкі, Пётр Нявінскі з Бельска, Мікалай Пашкоўскі з Нурца і Іван Стрышко з Беластока.

Узнагароды ўручыў намеснік прэзідэнта Беластока Тадэуш Начас.

Былі таксама ўручаны медалі XX-годдзя БГКТ, якімі Прэзідыум ГП БГКТ узнагародзіў наступных актывістаў: Веру Валкавыцкую, Рышарда Граткоўскага, Янку Крупу, Людмілу Панько, Віктара Рудчыка, Івана Стрышко, Яніну Чэрнякевіч (усе з Беластока), Аляксандра Закройшчыка з Нараўкі, Мікалая Міруця з Бандароў, Янку Палоцкага з Міхалова, Вольгу Пракапюк з Градэляў, Хведара Садоўскага з Васількова, Аляксандра Харкевіча з Ляшукоў і Мікалая Хлябіча з Рыбакоў.

Ад імя ўзнагароджаных з падзякай выступіла Вера Валкавыцкая.

Затым член Прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі выступіў з абшырным і змястоўным дакладам аб Кастрычніцкай рэвалюцыі. Асаблівую ўвагу ў ім звярнуў на станаўленне савецкай улады на Беларусі.

Пасля даклада выступіў былы рэвалюцыйны дзеяч з Дубіч Царкоўных Іван Чыквін. Ён расказаў аб умовах жыцця і барацьбы ў міжваенным перыядзе.



*Дуэт з Гарадка — Ірэна Паўлючук і Галена Кот.*

У мастацкім выступленні ўзялі ўдзел: харавы калектыў „Каласкі“ з Беластока, беластоцкі драмгурток, Ірэна Паўлючук і Галена Кот з Гарадка (у дуэце), Аляксандр Кубаеўскі з Орлі.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**



*Удзельнікі ўрачыстага пасяджэння.*




Глыбокі сэнс маюць словы загалоўка, якія мне прыпомніліся падчас сустрэчы з Алегам Антонавічам Лойкам з яго верша „Цюрынгскія бярозы“. Дзякуючы вось таму, што нішто нас не дзеліць 19 кастрычніка г.г. пераступіў парог памяшкання БГКТ у Варшаве прафесар Мінскага Дзяржаўнага універсітэта, вядомы беларускі паэт Алег Лойка, які прыехаў у Польшчу па запрашэнню Варшаўскага універсітэта.

Прафесар А. Лойка ад дваццаці гадоў з'яўляецца выкладчыкам беларускай мастацкай літаратуры, таму прысутныя на сустрэчы звярнуліся з просьбай, каб прадставіў ён актуальны стан беларускай паэзіі і прозы.

У беларускай паэзіі сямідзесятых гадоў — сказаў прафесар — не назіраецца асаблівых зрухаў. Па ранейшаму працуюць таленавітыя старэйшыя народныя паэты БССР — Максім Танк, Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў і іх паплечнікі — Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч і іншыя. У адзінае русла ўліваецца літаратурны маладняк, сярод якога назіраецца шмат яркіх талентаў. Беларускіх паэтаў хвалююць праблемы сучаснасці, выкліканыя навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй, а таксама мінулае сваёй краіны. Важнейшай тэмай у паэзіі сталі ўзаемаадносіны чалавека і прыроды. Хвалюе паэтаў і маральна-этычная праблема: чалавек у грамадстве. Беларускія паэты часта звяртаюцца ў сваёй творчасці да баладнага жанру, як адной з асноўных форм беларускай народнай паэзіі.

Небывалыя вяршыні асягнула ў сямідзесятыя гады беларуская проза. Доўга жыве ў народзе жудасная памяць вайны, памяць людской болі, людскога гора. Беларуская проза мае шмат твораў пра мінулую вайну, у якіх даволі падрабязна і пераканаўча расказана пра тое, як усё было. Вядомыя сёння ўсяму свету многія ваенныя аповесці Васіля Быкава, у якіх заключаецца праўда ваенных будняў і маральныя ўрокі тых гадоў. Лёс народа, жыццё многіх і жыццё адной асобы, пакуты і смерць у іх філасофскай неад'емнасці і ў іх канкрэтнай рэальнасці адбіваюцца ў свядомасці галоўных герояў ваенных аповесцей В. Быкава і ў глыбокай па свайму зместу, наватарскай па асэнсаванню тэмы „Хатынскай аповесці“ А. Адамовіча, заслужана адзначанай Дзяржаўнай прэміяй БССР і прэміяй Міністэрства абароны СССР. Кніга А. Адамовіча, Я. Брыля і Ул. Калесніка „Я з вогненнай вёскі“ не мае сабе роўнай ва ўсёй сучаснай сусветнай літаратуры пра вайну. Аўтары расказалі ўсяму свету праўду пра вайну, пра фашызм і фашыстаў. „Я з вогненнай вёскі“ — гэта кніга пра народную стойкасць, народную мужнасць. Гэта адначасова гнеўны абвінаваўчы акт супраць фашызму і жалобны рэквіем па загінуўшых у барацьбе і здзіўляючы помнік бязмежнай мужнасці беларускага народа і страсны заклік да народаў свету берагчы мір.

У апошнія гады ў творах пра вайну штораз часцей сустракаемся з клопатам мастака расказаць, чаму ўсё гэта здарылася і чаму народ перамог. Беларуская проза сямідзесятых гадоў адкрывае народ адкрыты Вялікім Кастрычнікам і Вялікай Айчыннай вайной. Тэма вайны, як тэма адкрыцця народа, гэта галоўны арыенцір сённяшняй, глыбока сацыяльнай і глыбока сацыялістычнай беларускай прозы.

Раман заўчасна памершага таленавітага пісьменніка І. Мележа „Завеі, снежань“ і раманы І. Чыгрынава „Плач перапёлкі“ і „Апраўданне крыві“ гэта вехі, якія акрэсліваюць ідэйна-стылявыя арыенціры беларускай прозы ў апошні час.

У беларускіх празаікаў наглядаецца выразнае імкненне даследваць сучаснае жыццё праз ахоп больш значнага перыяду часу.

Жыццю заходнебеларускай вёскі напярэдадні другой сусветнай вайны прысвечаны раман В. Адамчыка „Чужая бацькаўшчына“. Аб станаўленні новага жыцця ў былой заходнебеларускай вёсцы гаворыць раман В. Каваленкі „Падвышанае неба“. Таленавіты празаік І. Пташнікаў у сваіх аповесцях

(Працяг на стар. 2)

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ №227


МІКАЛАЙ ГАЙДУК

Уся тая памятная ноч сотні разоў вярталася да Цюймы ў снах. Пад іх націскам ён варочаўся на ложы, стагнаў, енчыў, але соннае трызненне не сунімалася і няўмольным вастрыём літоўскага нажа ўпівалася ў левы бок яго грудзей. Тады Цюйма з дзікім выццём зрываўся з ложа, у бяспамяцтве саскокваў на гліняны ток падлогі і толькі ад холаду, што праймаў босыя ногі, прачынаўся і да яго вярталася рэчаіснасць. На крык у святліцу ўбягалі служкі, пільна прыглядаліся свайму пану і, пераканаўшыся, што гэта яго мучаць сонныя мары, падкідвалі некалькі паленняў на прытухшы жар у коміне і цішком вярталіся ў свае катухі. Цюйма ж, крыху ахалонуўшы ад сонных з'яваў, закручваўся на пустым шырокім ложы ў мяккую мядзвежую скуру, сачыў за жвавым полымем у коміне і намагаўся прагнаць ад сябе жудасныя начныя мроі. Але тыя то адплывалі некуды, то зноў крыўляліся палахлівымі ценямі па шыраных вачах і б'ючым чорным струменьчыкам крыві з перарэзанай шыі. Яго нехта ўпіхаў у святліцу, а сам хаваўся за плячыма. І Цюйма на момант завагаўся: не хацеў рубануць сякерай па Сацу. Гэтага хапіла, каб з-за шырокіх Сацавых плячэй прасунулася нечая рука, і вастрыё нажа ядавіта ўпілося ў Цюймаў бок. У гэты момант яго сякера ўтразла ў нечай галаве. Але тут жа штосьці цяжкае ўдарыла яму па шыі і ён, заўважыў, штоваліцца сам у нейкую бяздонную прорву.

Ачнуўся Цюйма з пякучым болем у баку і шыі. Каля яго стаяў сабакаваўкадаў, што старожы трымалі для пільнавання яцвяжскіх нявольнікаў, і злізваў расплыўшую па падлозе карычневую крывавую лужыну. Перамагаючы востры боль, Цюйма павярнуўся на здаровы бок. Сабака злосна забурчэў, аскаліўшы жоўтыя клыкі, але на Цюйму не кінуўся, неахвотна падаўся ў дзверы. Цюйма, стоячы ўжо на каленях, убачыў каля парога два застыўшыя целы: свайго слугі Саца з перарэзаным горлам і нейкага чужога воя з рассечанай галавой. У святліцы са сцен зніклі вісеўшыя




кутках святліцы і нахабна трымцелі перад вачыма.

Як на яве, якраз як тады, чуе Цюйма пераліўчаты напеў царкоўнага звана. Гэта, напэўна, культавы званар Шугай, што без роду і без племені туліцца каля царквы ў крэпасці, па наказу айца Сафронія размерана тузае за вяроўку, прывязаную да сэрца звана. Чаша яго злётку дрыжыць, пагойдваецца нават, а сэрца настойліва ўдарае ў рэбры-берагі і са званіцы па ўсёй крэпасці плыве, быццам кроў па целе, хвалісты струмень. Разбудзіўшы ўсіх у пасадніцкіх харомах і ў грыдніцах, пераскоквае ён цераз высокую абаронную сцяну з дубовага бярвення і скочваецца са стромкай крапасной гары ў пасад. Пагуляўшы там па цесных вулках і пераходах ды запаліўшы ў некалькіх шчылінах-аконцах палахлівыя агеньчыкі, стрымгалоў кідаецца цераз вастраколле абароннага валу на водную гладзь Буга і лунае над ёю ў начной цемрадзі недзе над Рускай стараною і па ўсёй даліне.

— От жа ж гэты Сафроній! Яшчэ, здаецца, і першыя пеўні не прапялі, а ён ужо на ўсеначную падымае, — бурчыць драгічынскі пасаднік Цюйма і каторы ўжо раз за гэтую ноч знаходзіць сваімі прагнымі вуснамі мяккія губы свае любай Чарнушкі. — Трэба ўсё ж уставаць. Не выпадае нам з табою спазняцца ў царкву. Людзі заўважаць і судзіць стануць, што ўжо тры месяцы як пасля шлюбу, а з ложа нават на вялікдзень вылезці не сабяруцца, за любошчамі і свята не ўшануюць...

Раптам звон змоўк, і ў зацягнутыя высушанымі свінымі пузырамі вузенькія акенцы харомаў ударыў прарэзлівы крык. Не паспелі Цюйма і Чарнушка, схапіўшыся з ложа, уздзець на сябе нешта з вопраткі, як штосьці цяжка ламатнула ў дзверы і страшны храп чалавека, якому ў горла ўлазіць лязо нажа, затрапятаў ля самага парога святліцы. Цюйма дрыжачымі рукамі намацаў на сцяне рукаяць баявой сякеры і, шапнуўшы жонцы: „Хавайся за маімі плячыма...", скокнуў да дзвярэй, стаў каля вушака, размахнуўся. Чарнушка паспела выцягнуць аднекуль паляўнічы нож. Праз момант дзверы расхінуліся, і ад павеву ярчэй успыхнуў жар у коміне. У яго мігатлівым водбліску Цюйма ўбачыў на парозе свайго слугу Саца з выкручанымі назад рукамі, смяротным жахам у рас-там заўсёды зброя і святочная вопратка, з ложа — пасцель. Чарнушчына пасажная скрыня была перакулена на бок і свяцілася пустэчай свайго нутра. І тут у яго мільганула здагадка.

— Ча-арну-у-ушка-а! — нягледзячы на боль закрычаў ён.

Яму адказала цішыня. Ён зноў закрычаў, а потым яшчэ і яшчэ. Праз колькі часу, енчачы і стогнучы, на ягоны крык прывалокся ў святліцу званар Шугай. Наблізіўся да седзячага ў крывавай лужыне Цюйму, агледзеў яго шыю і бок, дапамог вылезці на сухое месца. Цюйма ад болю скрыгітаў зубамі.

— Пацярпі,валадар, твая рана не такая страшная — вылекуешся з яе, а па карку ты булавою дастаў, — суцяшаў стары, кладучы перавязку на Цюймаў бок. — Горш з іншымі: у магілу класці ўжо пара, а я тут сам, не здолею яму выкалупаць якую ды пацягаць іх туды.

— А дзе Чарнушка? — прастагнаў Цюйма.

— У палон пагналі.

— Хто?

— Літоўцы, а хто ж бы іншы.

— О-о-ох...

— Ну, лепш жа ў палон, чымсьці ў зямлю, — закрактаў званар. — Бач, уся твая дружына легла покатам. Куды ні кінь вокам, усюды ўміраючыя валяюцца. А пра пасад дык і гаварыць няма чаго: нікога, пэўне, не асталося, бо ніхто адтуль у цвердзь не аказаўся. Вось благадаць, што грыдзя Пашку толькі доўбняю аглушылі. Ён і паскакаў у Мельнік, а адтуль можа і ў Холм падасца, каб пра наша няшчасце самому князю Юрыю Львовічу паведаць.

А няшчасце навалілася на Драгічын у велікодную ноч 1274 года. Літоўцы падышлі к гораду скрытна. Заселі ў надбужанскіх зарасніках і чакалі на зручны момант.

Па даўняму звычаю перад поўначчу, як азваўся на званіцы благавест, стражы апусцілі ўзводны мост і расчынілі вароты крэпасці, каб пусціць у царкву людзей з пасаду. На гэта толькі і чакалі літоўцы. Прапусціўшы некалькі дзесяткаў пасадскага люду, адна іх частка кінулася ў крэпасць, другая — у пасад. Адна са стрэлаў заблудзіла на званіцу і ўпілася ў сцягно званаровай калекай нагі. Шугай крыкнуў ад болю, але сцяміўшы ў чым справа, закусіў да крыві губы, напружыўся, вырваў стрэлу з нагі, абкруціў разарванай кашуляй рану і замёр у цёмным куточку званіцы, пільна назіраючы, што дзеецца ўнізе. Праз некаторы час храп і енк параненых і ўміраючых перайшоў у пераможныя воклічы літоўцаў. Таксама і па пасаду снавалі палаючыя паходні і чуваць было задаволеныя галасы наезнікаў. Калі ўстала пахмурная і сырая раніца, на дзядзінцы пачаў павялічвацца гурт коней з прыторочанымі мяхамі награбленай здабычы і рос натоўп перавязаных палонных. Сярод іх Шугай і заўважыў маладую пасаднікавую жонку Чарнушку. Неўзабаве літоўцы, ведучы за повады коней ды падштурхоўваючы палоннікаў, пачалі спускацца з крэпасці. Такі ж натоўп выплыў таксама з пасаду і яны абодва, злучыўшыся, зніклі за пагоркам на гасцінцы, што вёў у бок Бранска і далей на поўнач, у літоўскія землі.

Ні пасаду, ні крэпасці захопнікі не падпалілі. Не хацелі, мабыць, падаваць знаку суседнім надбужанскім крэпасцям пра свой напад на Драгічын і выклікаць пагоні.

Слухаючы гаворку Шугая, Цюйма то енчыў, то скрыгітаў зубамі, невядома, ці то ад болю, ці то ад згрызоты па страце любімай жанчыны, дружыны, людзей, дабытку.

Праз паўтара тыдня са сталіцы княства, горада Халма, у Драгічын прыбыў з дружынаю сам князь Юры Львовіч. Агледзеў разграбленыя крэпасць і пасад, выслухаў расказы астаўшыхся ў жывых драгічынцаў, раззлаваўся, але з пагоняй на літоўцаў не спяшаўся. На нямое благанне, што вычытаў ён у расшыраных болем і гарачкаю вачах Цюймы, мовіў:

— Здаецца, мінулі ўжо тыя часы, калі Русь біла Літву. Днесь настаў час, што літоўскія суліцы ў рускіх грудзях усё часцей будуць гразнуць. Што ж, Міндоўг, збудаваўшы моцнае княства, хоць сам і загінуў ад рукі сваіх жа родзічаў, але ахвоту і прыклад іншым даў, як дзяржаву будаваць. Вось цяперашні князь Трайдэн яго і наследуе. Бач, не толькі ўсю зямлю літоўскую ў адно княства сабраў, але і па нашыя гарады рукі працягнуў. Ты ж сам добра ведаеш, што мінулай зімою ён у Горадні ўмацаваўся, Свіслач захапіў, а вясною свае старожы па рацэ Нарве расставіў. Літва цяпер не за Бебраю топельнаю, а вось тут, побач, за ракою Нарваю стаіць. Не да пагоні нам. Трэба брацца за ўмацаванне крэпасці і да абароны рыхтавацца.

Сам жа на час хваробы Цюймавай паставіў валадаром крэпасці драгічынскай Міхея з Мельніка, сабраўся і паехаў у Холм.

Працяг на стар.4



ЗОСЯ САЧКО

## аптымістычная калядка

бог з чортам
сядуць пры гарэлцы
і пагодзяць праблемы
міжнашыя

і мы, пакорлівыя,
дужаючыся са свабодай
будзем есці два хлебы

## сябры мае

*на імяніны кветкі*
*і нож у плечы а соль у вока*
*сцены на адзіноцтва*
*крыло для апоры*

*дзень да раскрыцця векаў*
*ахвотна бы мне*
*давалі бога*
*ды ў несмяротнасць душы*
*не веру*
*тады прыстанішча*
*ды чаканне на чужую*
*сперму*
*і маю смерць.*

## мой партрэт малюю

апускаю крылы і прастор
бо хаця шукала
— блудзіла і нічога не знайшла
быццам прагматычная
тэорыя праўды
уступаць у мяне сцены
дзеці якія — думаю —
рэдка родзяцца з яблыка кахання.
працягнуць нітку маёй элегіі
зусім яе не прадаўжаючы
да мужа і прыяцеляў
— шчыльна
як толькі можна прыпасці
да камня
урэшце жыўшы ў цяперышнім
я не мушу ўвесь час
аб несмяротнасці.

## вершык

*калі нават*
*пайду з табой у пасцель*
*і так не аддам табе*
*майго адзіноцтва*
*— яго як яблыка*
*дзялю на ноч і дзень*

## вершык аб надзеі

у гэтым пакоі
дзе кожны мае
сваіх прыяцеляў
кім жа ж тая
што ўваходзячы
у новы дом
не уступае ў новае
жыццё

## песенька ветра

*хаця галодных не накармлю*
*крошкі*
*якія рука мне падасць*
*раскідаю па снягу*
*хаця галодных не накармлю*

*за сцяной схаваюся*
*і паслухаю*
*як вераб'і будуць*
*расталкоўваць*
*мае незапісаныя словы*
*за сцяной схаваюся*
*схаваюсь*

З. Сачко

Беларуская літаратура — Аляксандар Барычэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА VIII**

**Дзіцячы свет.** Апавяданне „Велікодныя яйкі“ належыць да цікавейшых твораў пісьменніка. Герой апавядання Сцяпанка — гэта родны брат Янка з апавядання Сянкевіча „Янко-Музыкант“ і Сымонкі з паэмы Коласа „Сымон-Музыка“. Ва ўсіх гэтых творах у цэнтры пастаўлены постаці дзяцей, надзеленых выключнымі мастацкімі талентамі. У выпадку Сянкевіча і Коласа маем дачыненне з талентамі музычнымі, у Бядулі — з талентам малярскім.

Апавяданне „Велікодныя яйкі“ складаецца з трох тэматычных праслоек. Першая з іх гэта побыт беларускай вёскі, другая — адносіны вясковага асяроддзя да ўздольненага дзіцяці, трэцяя — свет галоўнага героя Сцяпанкі. Зразумела, што дзве першыя праслойкі спаўняюць у творы толькі ролю фона, на якім паказана постаць галоўнага героя.

Паказаны ў творы вясковы побыт нічым не адрозніваецца ад карціны вясковага жыцця выступаючай у іншых дарэвалюцыйных апавяданнях Бядулі. Дамінуе ў ім сялянская нядоля, нястачы, клопаты. Пісьменнік звяртае галоўную ўвату на побыт сям'і Сцяпанкі. Жыццё сям'і камплікуецца фактам, што бацька Сцяпанкі знаходзіцца на фронце і, як даведваемся з заканчэння апавядання, на фронце гіне. Са сказанага відаць, што ўся падзея твора адбываецца ў часы першай сусветнай вайны.

Праблема адносін вясковага асяроддзя да таленавітага хлапчука спаўняе ў творы істотную функцыю. Аўтар падкрэслівае традыцыяналізм вясковага мыслення. З аднаго боку жыхары вёскі захапляюцца хараством малюнкаў Сцяпанкі, з другога боку асуджаюць хлопца, бо яго мастацтва не звязана з якой-колечы канкрэтнай карысцю.

Забітая горам беларуская вёска вартасць чалавека мерала яго здольнасцю і прыдатнасцю да тых заняткаў, якія ператвараліся ў хлеб, вопратку, грошы. Усё іншае было дзівацтвам, гульнёй, ненармальнасцю. Зрэшты, кожная грамадская або прафесіянальная група амаль заўсёды адносіцца абыякава, непрыхільна або варожа да тых асоб, якія сваімі схільнасцямі, паводзінамі, зацікаўленнямі адрозніваюцца ад тыповых характэрных рыс асяроддзя.

Тыповую для вясковага асяроддзя паставу займае і маці Сцяпанкі. Зацікаўленні сына трактуе яна як няшчасце. Схільнасць сына да малярства ва ўяўленні маці з'яўляюцца небяспечнымі праявамі ненармальнасці. „Каб яшчэ сын людскі быў, — гаворыць жанчына, — падрос бы і гаспадарыў, замест нябожчыка, а то з кожным годам растуць разам з ім цацкі ў яго галаве“.

Дзякуючы такому падыходу да ўсякай адменнасці, адносіны паміж асяроддзем і Сцяпанкам маюць выключна канфліктны характар.

У цэнтры твора пастаўлена пісьменнікам фігура Сцяпанкі, гэтага патэнцыянальнага беларускага Рэпіна ці Матэйкі. Сцяпанка жыве адной ідэяй, адным імкненнем, адной марай — малярствам. Не цікавяць яго штодзённыя заняткі, не пераймаецца ён ні лёсам сваім, ні лёсам маці; не думае ён аб стане гаспадаркі. Хлапец запалонены поўнасцю сваёй ідэяй фікс. Мастацкі інстынкт намнога мацнейшы ў яго чым розум. Рэальнае і фікцыйнае ў яго ўспрыняцці зліваецца ў адну цэласць. І так быць павінна. Сапраўднае, вялікае мастацтва заўсёды з'яўляецца дзіцём факта і фантазіі. Становішча Сцяпанкі ў грамадстве паднявольнае, але ў сэнсе духовым пануе ён над асяроддзем. Парадокс усёй паказанай у творы сітуацыі заключаецца ў тым, што вясковае асяроддзе здольнае выдаць на свет генія, але няздольнае яго зразумець.



# МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ: Іван Вапа

Іван Вапа жыве ў вёсцы Доўгі Брод (гміна Дубічы Царкоўныя). Яму семдзесят год, але на столькі не выглядае. Бадзёры і энергічны. А калі возьме гармонік у рукі, калі зайграе, ды яшчэ заспявае!.. Яго пальцы так гладка ходзяць па клавішах гармоніка. У маладосці быў вясельным музыкантам і... пільшчыкам. Пілаваў і на вярху, і на нізе. Цэлых дзесяць год!



Працаваў адначасова на гаспадарцы. Недзе ў 1930 годзе задумаў збудаваць вятрак. Паставіў за вёскаю і пачаў малоць збожжа. Пасля збудаваў большы вятрак, больш дасканалы. І ўжо значна пазней пабудаваў трэці вятрак (тых ужо цяпер няма) на сваёй стадоле. Ён на шарыкавых падшыпніках. Камяні да свайго млына выліваў таксама сам, і сам рабіў усе разлікі, каб быў ён на высокім тэхнічным узроўні.

Гэты трэці вятрак выкарыстоўваў Іван Вапа не толькі да малоння збожжа. Вятрак варушыў яму таксама крайзэгу і габлярку.

Ён вялікі спецыяліст па расстаўлянню зубоў у пілах і па іх вастрэнню. Недзе ў трыццатых гадах славіўся ён як спецыяліст па вырабу гонтаў. Прадукаваў гонты масава. Заказы рабілі гміны, лясніцтвы і гаспадары.

Вельмі цікава пабываць на яго панадворку, пабачыць тварэнне яго рук. Вось, напрыклад, крайзэга. Яна не такая як многіх гаспадароў. Ён яе ўдасканаліў. Дыяметр — 120 см. Калі ён купіў гэтую пілу, у ёй было 120 зубоў. І ён выкінуў 100 зубоў, пакінуў толькі 20. І вось гэтай мадэрнізацыяй абяспечыў высакаякасную прадукцыйнасць.

У той час, калі на нашых вёсках было яшчэ цяжкавата з трактарамі, сам зрабіў стальнога каня. Шмат часу карыстаўся гэтым трактарам. Але ад чатырох год у яго ўжо фабрычны трактар. Было шмат клопатаў з пасадкай і капаннем бульбы. І ў гэтай галіне ён зрабіў удагадненне. Да трактарнага двухлямешнага плуга дарабіў свайго роду крэсла, у якое сядае жонка і накідае саджанцы. Плугі маюць адпаведную ўстаноўку на глыбіню. Удасканаліў таксама капачку. Дарабіў да яе велізарны кош у выглядзе парасона. У яго капачцы бульба не раскідаецца ва ўсе бакі, а трапляе ў гэты парасонавы драцяны кош, з якога высыпаецца роўненькім радочкам на зямлю. У трактарным прычэпе Вапа зрабіў такое абсталяванне, што калі возіць гной на поле, ён аўтаматычна растрасаецца.

І так, дзякуючы сваім тэхнічным здольнасцям, значна аблягчае сабе працу на гаспадарцы. Ды гаспадарыць ён добра. Найбольш увагі прысвячае жывёлагадоўлі. Жыве культурна і заможна.

— Найгорш толькі з тым, — гаворыць Іван Вапа, — што сілы ўбываюць, старасць хутка наступіла.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**

# МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**ЧЫМ ЖЫВУЦЬ ДОЎГАЖЫХАРЫ?**

„Чым жывуць доўгажыхары?“ Адказ на гэтае пытанне з даўніх часоў хваляваў людскія розумы. У Балгарыі даследаваннем таямніц даўгалецця займаецца Сафійскі цэнтр геранталогіі і герыятрыі. Шматлікія назіранні паказваюць, што пераважную большасць з 115.486 жыхароў краіны, якім больш чым 80 гадоў (а ў іх ліку і 235 чалавек, якія перайшлі стогадовы жыццёвы рубеж), складаюць сяляне невялікіх вёсак. Значную частку часу — не менш як 15 гадзін у суткі — яны праводзяць на вуліцы, харчуюцца гароднінай, садавінай, малочнымі прадуктамі, асабліва славутым балгарскім кіслым малаком, мясам дробнай жывёлы і птушкі. Доўгажыхары, як правіла, пачыналі працаваць з ранняга дзяцінства. Амаль ніхто з тых доўгажыхароў, з кім гутарылі вучоныя, не хварэў цяжка і не звяртаўся да ўрачоў.

Даследаванні выявілі даволі цікавую заканамернасць: доўгажыхарамі часцей бываюць дзеці маладых бацькоў. Самі яны, як правіла, маюць шмат дзяцей. У самага старога жыхара сяла Пладавітага Старазагорскай акругі 107-гадовага Генча, напрыклад, дзевяць дзяцей (старэйшай дачцы 84 гады), 17 унукаў, 24 праўнукі і пяць прапраўнукаў.

(Працяг са стар. 3)

І павалокся распалены гарачкай, спавіты соннымі трызненнямі і ўяўнымі падзеямі нямераны час. Цюймава маладое цела доўга і натужліва змагалася са смерцю. Толькі недзе праз год наступіла канчатковая перамога жыцця, і гэта дзякуючы дзіўным лекаваннем старога Шугая, які рознае зелле, мазі ды настойкі спачатку выпрабоўваў на сваёй ране, а потым ужо прыкладваў да Цюймавага гніючага боку.

Таксама як яго валадар, так і Драгічын вельмі павольна вяртаўся да жыцця: князь пакінуў дзесяткаў два сваіх вояў, даў крыху ўгорскіх і палавецкіх нявольнікаў, але вольны рамесны люд у драгічынскі пасад не спяшаўся — пужала яго пагрозлівае суседства Літвы. Па Бугу намнога радзей, чым калісьці, плылі цяжка наладаваныя таварам камягі, затое значна часцей шыбавалі лёгкія чаўны з пасланцамі ды воямі.

Але Цюйму, калі ён узбіраўся на крэпасную сцяну, менш цікавіла рака, ён кіраваў свой зрок у процілеглы бок, на поўнач, дзе пакутвала ў літоўскай нявалі яго Чарнушка. Апошнім часам яна чамусьці явілася яму ў снах з немаўлятам. І Цюйма ўжо на яве ўздрыгваў: „А можа ж так быць, — разважаў. — Мы ж спадзяваліся дзіцяці, спадзяваліся сына...“ І яму станавілася млосна. Ён спускаўся з крэпаснай сцяны, прыходзіў у святліцу і кулём валіўся на ложа.

Аднойчы Шугай застаў яго ў поўным узбраенні і мехам харчоў, каля харомаў стаяў верхавы асядланы конь.




— Куды ты, валадар, сабраўся? Ці не ў госці к каму-небудзь?

— У госці, да Чарнушкі...

— Няўжо? — зумеўся званар. — Хіба табе свабода ды князева ласка надакучылі. Цябе ж ужо на Нарве голымі рукамі ў няволю возьмуць, у пяты воласу з конскага хваста нагоняць і будзеш аж да смерці на дыбачках свіней карміць у нейкага літоўскага вашпана...

— Разам з ёю будзем карміць...

Цюйма сеў на лаву, апусціў у далоні свой худы твар. Сатканая са здагадак мроя не адыходзіла, станавілася яскравай, жывой. Карыя вочы Чарнушкі з дакорам глядзелі на яго з глыбокіх ад нястачаў і гора цёмных вачных ямаў, а заморанае дзіця працягвала ў яго бок свае тоненькія і жоўценькія, бы саломінкі, ручкі, нешта ляпатала сінімі ад малакроўя губкамі.

Цюйма сарваўся з лавы, узваліў мех на плечы і праз момант ужо спускаўся з крапасной гары.

Губы затрымаўшагася каля крапасных варотаў Шугая ціха шапталі:

— У няволю пайшоў, значыць, або на смерць... Мроі замучылі, не інакш...

**Мікалай Гайдук**

# ТОСТ ЗА МІХНАЎКУ

За сталом актыў Нараўкаўскай гміны: Язэп Навіцкі — начальнік, Кастусь Майсеня — старшыня гміннага камітэта Фронту адзінства народа і, заадно, дырэктар мясцовай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў, Аляксандр Бандарук — дырэктар ляўкоўскіх цагельняў, Аляксандр Харкевіч — дырэктар ляшукоўскай школы і Мікалай Кабац — солтыс вёскі Міхнаўка.

На сталах... як на сталах — знайшлося ўсё, што трэба, каб урачыста адзначыць шматлікія „нагоды“, з якіх найважнейшая — узнагарода вёскі Міхнаўка.

Устаў солтыс Мікалай Кабац і ад хвалявання не можа слова сказаць.

—Ейбогу, таварышы, не спадзяваўся я, што дажыву да такой радасці, — урэшце выдушыў ён з сябе. А ўсе прысутныя адгукнуліся дружнымі воплескамі.

І пачаў ён доўгі расказ пра мужыцкую долю, пра ўсё перажытае, пра сябе і пра сваіх аднавяскоўцаў.

— У майго бацькі было пяць сыноў і тры дачкі. Вярнуліся мы з бежанства. Зямля зарасла лазой, ні кала, ні двара. Мне было 18 гадоў. Бацька кажа: ідзі, сынок, на свае! А дзе ж ты пойдзеш? То ж тады так не было, як цяпер, што куды хочаш, туды і тупай. Зараз і апрануць, і накормяць, і добра заплацяць. І далёка ісці не трэба.



*Мікалай Пташынскі — адзін з лепшых гаспадароў у вёсцы Міхнаўка.*

А далей солтыс Кабац расказваў, як ён будаваўся, як іх у 1933 годзе пераносілі на хутары, як гітлераўцы зганялі з гэтых хутароў, як у час акупацыі блыталіся па чужых хатах, як пасля вызвалення зноў будаваліся...

— Не паспелі мы яшчэ закончыць сваёй хаты, толькі што ў кухні пасяліліся, ажно прыходзіць войт Харкевіч і кажа: Знаеш што, Кабац? Мы ў цябе школу наладзім. Як? — пытаюся. — То ж тут толькі адны сцены, без вокан і дзвярэй. — Не бядуй, — кажа ён, — зробім.

І сапраўды, склікалі людзей і зрабілі грамадскім чынам, як цяпер кажуць. Тры гады дзеці ў нас вучыліся. З усіх навакольных вёсак прыходзілі. Замець, мароз, ці дождж і балота, а яны топчуцца, бедныя, пад вокнамі, аж сэрца баліць. Клічу тады іх на кухню, каб пагрэліся...

І так мы разам бедавалі. Пры іх то і я пісаць і чытаць навучыўся. Нават у гміну на працу прынялі мяне.

Пасля дзядзьку Кабацу давялося быць начальнікам пошты. Аж да 1957 года. Адначасова гаспадарыў. Спярша сам, а пасля ў спулдзельні прадукцыйнай, а калі спулдзельня развязалася, зноў на сваім. І тады дзядзьку Кабаца выбралі солтысам.

— І добра зрабілі, — кажа дырэктар Харкевіч.

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**гнілка** — добра ўлежаны адпаведны сорт грушы. Замісь швэндатіся бэз дай прычыны взяв бы кошык і грушы позбірав, коб гусі нэ йелі, то посыпалі п на гору і на гнілкі влежаліся п. Потуом нэ буойсь, за малінку зйісі.

**назола** — начэплівы чалавек. Чого ты прывязався як назола якая, ходіш і ходіш зазо мною. Сказав што нэ дам, то нэ дам і отчэпіся ты од мэнэ.

**полюовка** — груша дзічка. Зобач як полюовка зацвіла, як бы молоком хто обліев. От гнілок будэм (будэмо) міеті. А наш Ваня так любіт гнілкі.

**радно** — саматканае пакрывала, якім засцілалі драбінясты воз, едучы ў поле па збожжа, каб не губіць зерне з асыпаючыхся каласоў. Скоч до хаты і скажы нэхай маті радно дасть, бо по жыто пойедэм (пойедэмо).

**сарафан** — доўгая шарсцяная спадніца. Повымай з сундука мойе сарафаны, а то я до йіх давно заглядаті нэ заглядала, страшно коб моліе нэ пойелі. Провіетрыті трэба.

**скалка** — кропля тлушчу ў страве. І ты побач, такото кулешу наварыла — скалка на скалцы плывае, а йесті ніхто нэ хочэ. Што за паны поробіліся?

*Кленікі, гміна Чыжы.*

### ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Солтыс з Цісоўкі.*

*Фота М. Гайдука.*

## ФАЛЬКЛОР

### ЛЮБОЎНАЯ




*Ой, пада дождж**ы**к, пада*
*на маю расаду —*
*ужо я, маладзенька,*
*із Лукі паеду.*
*Буду выездж**а**ці —*
*возам шараваці*
*будут ж мене, будут*
*суседкі жаловаці.*
*Ой, не так суседзе,*
*як адзін младзенец —*
*узяў за ручаньку,*
*вывяў на гасцінец.*
*Не так на гасцінец,*
*як на тую дрожку:*

*— Падай, міла, ручку,*
*хоць чараз дарожку.*
*Ручанькі ні дала,*
*бо я жаль мела —*
*выдана малода,*
*кохання ні знала.*
*Кохане, кохане,*
*паклон табе, Божа,*
*а хто закахаўся —*
*расстацца ні можа.*
*Расстаньсе, расстаньсе,*
*каліна з явором,*
*а мы расстаемся*
*з мілым разгавором.*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. М. Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Навучанне беларускай мовы ў 1977/78 годзе

**(статыстычная даведка)**

Паводле даных Беластоцкай куратоны асветы і выхавання, у бягучым 1977/78 школьным годзе беларуская мова навучаецца ў 53 пачатковых школах у параўнанні з 52 школамі ў папярэднім годзе. Пры значнай стабілізацыі агульнай сеткі школ навучанне беларускай мовы было адноўлена ў чатырох пунктах (Галады, Катлы, Кнаразы і Кожына) і спынілася ў трох школах (Волька Нурэцкая, Лука і Плюцічы).

Колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых школах складае ў 1977/78 годзе 3979, што на 4,3% менш чым у папярэднім годзе. Гэтае змяншэнне было аднак больш памяркоўным чым у 1976/77 годзе[1]) і ў значнай меры было абумоўлена актуальнымі дэмаграфічнымі тэндэнцыямі ў Беластоцкім ваяводстве. У падобнай меры (-3,9%) паменшылася колькасць навучэнцаў беларускіх агульнаадукацыйных ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы, якая ў бягучым школьным годзе складае 736.

Навучанне беларускай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах ажыццяўляецца на тэрыторыі двух гарадоў і 15 гмін. Ніжэй прыводзяцца даныя, якія паказваюць на абсяг яе навучання ў паасобных гарадах і гмінах Беластоцкага ваяводства:

1) гл. Ніва" № 52, 26.12. 1976 г.

| | 1976/77 | | 1977/78 | |
|---|---|---|---|---|
| | школ | вучняў | школ | вучняў |
| Ліцэі разам | 2 | 766 | 2 | 736 |
| Бельск | 1 | 490 | 1 | 468 |
| Гайнаўка | 1 | 276 | 1 | 268 |
| Пачатковыя школы | 52 | 4159 | 53 | 3979 |
| Бельск | 1 | 456 | 1 | 450 |
| Гайнаўка | 1 | 74 | 1 | 129 |
| гміны: | | | | |
| Арлянская | 6 | 419 | 6 | 417 |
| Белавежская | 1 | 18 | 1 | 17 |
| Бельская | 9 | 498 | 12 | 508 |
| Боцькаўская | 1 | 40 | 1 | 39 |
| Вышкаўская | 1 | 17 | 1 | 11 |
| Гайнаўская | 6 | 567 | 6 | 586 |
| Гарадоцкая | 2 | 94 | 2 | 69 |
| Дубіцкая | 3 | 278 | 3 | 238 |
| Заблудаўская | 1 | 83 | 1 | 73 |
| Кляшчэльская | 3 | 114 | 3 | 88 |
| Мілейчыцкая | 1 | 14 | 1 | 11 |
| Нараўкаўская | 5 | 385 | 4 | 365 |
| Нараўская | 6 | 402 | 6 | 376 |
| Нурэцкая | 2 | 100 | 1 | 26 |
| Чыжаўская | 3 | 600 | 3 | 576 |

(тур)




### МУЗЕЙ ВАНДАЛІЗМУ І НЯДБАЙНАСЦІ

Некалі было тут шумна. Калідоры заліваліся звонкімі галасамі дзяцей. Зараз тут панура. Толькі вада расплываецца бруднымі плямамі па белай столі, і час ад часу гракне на падлогу, абарваўшыся, тынк. Што будзе з будынкам нашай былой школы? — безупынна пытаюць жыхары Чэхаў Арлянскіх, што ў гміне Дубічы Царкоўныя. Як так можа марнавацца дабро? Толькі працы, такія кошты...

Будынак здалёк выглядае зусім добра. Аж цяжка паверыць, што апусцеў. На сцяне лозунг „Дні асветы, кніжкі і прэсы", а ля дзвярэй — інфармацыйная таблічка з нарысаваным тэлефонным апаратам.

Націскаем клямку дзвярэй. Закрытыя. Праблему часткова вырашае выбітае ў іх шкло. Праз дзіру відаць раскручаны электрычны лічнік. Абыходзім будынак. Пад нагамі хрусціць пабітае шкло. Часам выкаціцца з парыжэлай травы, закранутая наском чаравіка, бутэлька і, перавярнуўшыся тварам уверх, крыва гляне пабляклым напісам „Сталовая". Са сцен, быццам бы нейкія шчупальцы, тырчаць абарваныя тэлефонныя драты. Нашу ўвагу прыцягваюць вокны, а дакладней пабітыя шыбы. Лічым — дзевяць вокан і адзінаццаць пабітых шыб. Першае акно ад дзвярэй. Праз шыбіну відаць вялікую залу. Брудна аж страх. Нехта, праўда, спрабаваў замятаць, але смецця, відаць, было не пад сілу і, намёўшы цэлую горбу пад кафляную печку, пакінуў, прыкрыўшы бярозавым венікам. Ідзем далей. Перад намі панарама поля бою. На падлозе паваленыя штатывы, якія некалі трымалі геаграфічныя карты. Дзверы — праход у супроцьлеглую залу ўпрыгожаныя дзіўным рысункам нейкай чалавекападобнай істоты. Зусім як у пячоры дзікуноў. Пераходзім на другі бок будынка. Сцены пакоя, якія некалі ўсміхаліся чыстым лёгказялёным колерам, сумна спазіраюць плямамі па адпаўшым тынку, і дзіркамі па вырваных электрычных уключальніках. Са столі, натуральна размаляванай дажджавымі зацёкамі, панура вісяць драты, што некалі падтрымоўвалі электрычныя лямпы, якія зараз, у выглядзе шкляных асколкаў, валяюцца па падлозе. Чацвёртая зала алкагольная, аб чым сведчыць пустая бутэлька з-пад „Бальтык водкі", якая ляжыць на бела-чорнай падлозе. Цікава толькі, навошта тыя тоўстыя палены, раскінутыя па пакоі? Можа на няпрошаных гасцей? Або дзеля захавання чаргі пры выпіўцы? У наступнай — батанічны сад. На столі і сценах цвіль. Зусім як у фантастычным апавяданні „Лес" Аркадзія і Барыса Стругацкіх. Мінаем малы пакоік, які ў меру чысты, і праходзім у наступны, сёмы па чарзе. Перад намі візія пекла. Уся падлога ў чорна-цёмных плямах. Як бы нехта смалу варыў. Сцены „ўпрыгожаны" напісамі, як бы нехта сваіх успамінаў. І перад намі восьмая і апошняя зала. Магчыма, была тут некалі кухня, аб чым сведчыць пліта. Акно надта высока і нельга дакладна разгледзець. Не будзеш жа карабкацца. Яшчэ нехта з мясцовых улад убачыць і нешта нядобрае падумае. А можа і шкада, што не палез? Хай бы гміннае начальства ўбачыла. Можа была б гэта нагода да зацікаўлення будынкам.

**Бізун**



*Марыя Рэент гаспадарыць у Міхнаўцы з мужам Янам. Яны спецыялізуюцца ў гадоўлі свіней. А яшчэ цётка Марыя тчэ вось такія цудоўныя вайняныя дываны.*

— Не ведаю, ці добра, ці дрэнна, — адказвае солтыс Кабац, — але ведаю, што ў кожнай хаце ахвотна мяне вітаюць і з кожнай сваёй справай звяртаюцца да мяне. Жывем дружна. Часта гаворым пра тое, што на свеце чуваць, як людзі жывуць, як гаспадараць. Першы пачаў Міхал Пташынскі. Абзавёўся малочнымі каровамі, пабудаваў вялікі хлеў, а затым вялікую клуню. Цяпер ужо канчае мураваны жылы дом. Летам кожны дзень адстаўляе ён па 60 і больш літраў малака. Зімой крыху менш, але таксама многа, бо ў яго кармоў удосталь. Сілас з травы, сілас з зялёнага жыта, з бураковага лісця... У след за ім, за Пташынскім, пайшлі яго суседзі: Мікалай, Аляксандр і Георгій Харкевічы, а таксама Мікалай Скепка і Серафім Матвеюк, і Ян Рэент... Адзін на другога глядзіць і па ціху думае: ці я горшы? Вось і чую, што начальнік Навіцкі хваліць маю вёску за кантрактацыю і за гадоўлю, і за навозы. А крыху пазней — і гэтая ўзнагарода ад ваяводы: 30 тысяч злотых.

— За гэта і вып'ем! — падсказаў начальнік Навіцкі.

— А пэўна што вып'ем! — згадзіўся солтыс Кабац. — І каб нашым сялянам яшчэ лепш жылося!

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**




*Кузаўская прадаўшчыца з'яўляецца адной з самых адважных гандляроў у наваколлі. Ужо колькі разоў яе вышэйшыя ўлады загадвалі ёй заняцца скупкай парожніх бутэлек, а яна на ўсе гэтыя загады плюе. І пераможна далей не думае арганізаваць патрэбнай скупкі.*

*Цікава, ці доўга яшчэ будзе працягвацца яе гульня з кліентамі і... сваімі вярхамі?* (ус)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Цяжкая страта



„Перажыць жыццё і не мець ворагаў — найвялікшы поспех, якога можа дабіцца чалавек“, — гаворыць усходняя максіма. Калі смерць вырывае нам такіх людзей, выразна ўсведамляем, які скарб мы страцілі. Такім усведамленнем стаў для белавежцаў (ды і не толькі для іх) дзень 27 кастрычніка г.г., калі пасля цяжкай хваробы памёр мгр інж. Сцяпан Крукоўскі — дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку.

Нарадзіўся С. Крукоўскі 19 чэрвеня 1940 г. у Белавежы. Пасля заканчэння ў 1965 годзе вучобы на лясным аддзяленні СГГВ, працаваў пачаткова таксатарам у БУіПЛ у Беластоку, затым ад'юнктам у надлясніцтве Катрынка і надляснічым у Жэдні. Ад студзеня 1975 года стаў дырэктарам Белавежскага нацыянальнага парку. С. Крукоўскі выконваў таксама абавязкі старшыні Аддзела ПТТК у Белавежы і члена Галоўнага праўлення ПТТК у Варшаве.

Усюды, дзе працаваў, пакінуў цёплыя ўспаміны. Быў незвычайна сардэчны для ўсіх людзей, асабліва для дзяцей. Вось, хіба, не было аніводнага дзіцяці працаўнікоў парку, якога не знаў бы асабіста. А калі якое моцна захварэла, браў свайго „Фіята“ і вёз у Беласток да ўрачоў-спецыялістаў. Дбаў таксама і аб сваіх працаўніках. Быў жыццерадасны. Меў незвычайнае пачуццё гумару. Любіў жартаваць, ды ніколі жартамі нікога не пакрыўдзіў. Знаў ім мяжу. Стаяў на парогу вялікай кар'еры. Смерць яе зблытала.

**П. Байко**

## Нештодзённыя госці

У Чаромсе адбываецца многа добрых канцэртаў. У канцы кастрычніка чыгуначнікі маглі пaглядзець выступленне вакальна-інструментальнага калектыва „Бэнэ-Наці“ і лаўрэаткі конкурса салдацкай песні „Калабжэг-1976“ Ніны Урбана.

У 17 гадзін канцэрт адбыўся для працаўнікоў чыгуначнай станцыі, а ў 19 — для паравознага дэпо і гміннай управы. Вельмі прыемна прынялі гледачы Ніну Урбана. Яна выканала чатыры песні, між іншым, песню-лаўрэатку — „Усе барвы ліпеня“. Канцэрт наогул спадабаўся. Толькі гучнагаварыцелі так былі настроены, што часам трэба было затыкаць вушы. Не чутны былі ніякія словы песні. Гэтую загану кірую ў адрас чаромхаўскіх дзеячоў, каб у будучыні адпаведна строілі гучнагаварыцелі, бо нават добры канцэрт можна змяніць у халтуру. **(ус)**

## Цёмная вуліца

Ужо некалькі месяцаў вёска Альхоўка (гміна Нараўка) не мае вулічнага святла. Жыхары вёскі некалькі разоў пасылалі просьбы да ўлад, але ў вёсцы далей цёмна. Аж зайздрасць бярэ, кажуць людзі, калі глянеш на маленькую Лесну ці Забрады, дзе прыгожа асветлены вуліцы. Некалькі тыдняў таму прыехалі электрыкі ў Альхоўку, паглядзелі і ад'ехалі. Усё засталося без змены. **(А.З.)**

## Добра працуюць

У Дубічах Царкоўных у спажывецкай краме таргуюць дзве прадаўшчыцы — Люба Шварц і Ольга Харытанюк. Прыемна зайсці сюды чалавеку, бо кожны ведае, што яго хутка і культурна абслужаць, яшчэ і цёплае слова скажуць. А гэта вельмі важнае ў кантактах з людзьмі.

У краме парадак і чысціня, вялікі выбар розных тавараў. Люба Шварц-Сабалеўская вядома чытачам „Нівы“ з розных конкурсаў беларускай песні, дзе яна знаходзілася заўсёды сярод першых. Няма сумнення, што і ў працы яна, разам з сяброўкай Оляй, зойме выдатнае месца.

**М. Панфілюк**

## Ой, моладзь, моладзь, каб ты пастарэла

З якой нагоды такое пажаданне? Ці ж не можна мне быць добразычлівым без нагоды? Якраз сёння прыплыў у маю душу добры настрой і каб яго дарма не спаліць, вырашыў я выліць яго на паперу. Хачу вам прызнацца, што сёння не згаджаюся я з прымаўкай, якая вучыць, што зло родзіць зло. Няпраўда! Прынамсі сёння гэта няпраўда! Я сёння думаю, што на свеце больш добрых людзей чым дрэнных.

Пасля гэтага філасофскага пачатку хачу ўрэшце прывесці факты, якія павінны былі мяне знерваваць, але не знервавалі. Мне трэба было ўзяць дакумент і паслаць яго ў Варшаву. Мой сябра выбраўся туды з сям'ёй жыць. Дачка яго ў Варшаве працягвае вучобу, якую пачала ў нашым горадзе. Па яго сардэчнай просьбе быў я ў дзеканаце вышэйшай установы два разы. Абодва разы дзяўчаты за сталамі адносіліся да мяне вельмі ветліва. І два разы запісвалі варшаўскі адрас, куды трэба было паперку паслаць. Толькі ані разу не прышло ім у галаву, каб паперку тую выслаць.

І другі прыклад. У адным прадпрыемстве стаяў я ў чарзе, каб узяць цэртыфікат, бо хачу ехаць самаходам за граніцу. Стаяў я ў гэтай чарзе і не мог нацешыцца дзяўчынай, якая ветліва абслужвала сваіх равеснікаў. Але вось дзіва! Калі падыходзілі старэйшыя, тая ветлівая дзяўчына яўна змянялася і ўжо не гаварыла з імі так мякка.

І цяпер рэфлексія. Што лепшае: ці калі ветліва прымаюць і не выконваюць, ці калі крычаць і выконваюць? Ёсць яшчэ трэці выхад: не крычаць і выконваць.

Напісаць сённяшні ліст прымусіла мяне тэхнічнае аддзяленне ЗБМ у Беластоку. Калісьці даведаўся я, што на вуліцы Пагоднай ЗБМ будзе будаваць гаражы. Напісаў прашэнне, каб і мне прызналі месца. Ляжала маё прашэнне, а я час ад часу заходзіў і прасіў, каб не забылі. У тым пакоі, куды я заходзіў, сядзяць маладыя людзі. Усе яны адсылалі мяне з надзеяй. Калі я даведаўся, што ўжо падзялілі дзялянкі і народ пабудаваў гаражы, зайшоў і спытаў, чаму ж я не атрымаў дзялянкі. Пачалі злосна мне выясняць. Папершае, — казалі, — дасталі тыя, у каго машыны ёсць і стаяць пад голым небам... — А калі ў каго няма яшчэ машыны, а ўжо стаіць гараж? — кажу я.

Я проста, дарагія чытачы, хацеў даказаць, што не з'яўляюся горшым ад чалавека, які па-знаёмству дастае гараж, а не мае самахода, а я яго маю ад 1970 года. Не сварыўся з імі, нават доўга не займаў часу. Толькі запытаў, ці застаецца мне ў далейшым надзея. Адказалі, што напішуць. Напісалі адмоўна і забралі надзею. А я ўсё роўна не злую, бо ведаю, што маладыя будуць лепшымі, калі пастарэюць. А дачакаць глыбокай старасці я ім жадаю.

**В. Петручук**

**Дзень сеньёра**

## У Крынках

У Крынках жыве многа пенсіянераў, былых працаўнікоў гарбарні, ГС, шавецкай і кушнерскай фабрык. Саюз пенсіянераў разам са ЗБоВіД-ам арганізавалі гэтым людзям урачыстасць. Гарбарня, ГС і ПГР у Крынках далі грашовую дапамогу. Усе сустрэліся ў мясцовым рэстаране. Крынкаўскія афіцыянткі не паспявалі падаваць блюдаў. Потым зайграла музыка. Пайшлі бабулі ў танец, заказвалі „Трасуху“, „Мазурку“, ды старыя полькі. Урачыстасць закончылі, калі пеўні спявалі па дварах. **Віт**

## У Гайнаўцы

Дзень сеньёра ў Гайнаўцы быў арганізаваны ў кавярні „Вжос“. Усе месцы былі заняты. Прыйшло каля ста заслужаных пенсіянераў з розных прадпрыемстваў горада. Уступнае слова сказала старшыня Польскага камітэта грамадскай дапамогі (ПКПС) мгр Зофія Лелеўская. ПКПС і быў ініцыятарам і арганізатарам сустрэчы. Паплылі ўспаміны і размовы.

З нагоды 50-годдзя супольнага жыцця заслужаным парам былі прызнаны залатыя медалі. Іх уручылі: Антаніне і Баляславу Літвін, Ользе і Яну Шэрашэўцам, Вікторыі і Браніславу Грынявецкім.

У мастацкай частцы выступіла моладзь з ліцэя № 9 у Гайнаўцы пад кіраўніцтвам мгр Равінскай.

**Э. Вайсковіч**




**Валянцін Анапюк.** Вашы здымкі з пабыўкі Алега Лойкі ў ліцэі слабыя тэхнічна.

**Майка.** Вершы надрукуем у „Парнасіку“.

**Віт.** Матэрыял „Бог не роўна дзеліць, а людзі таксама“ не апублікуем. Справа дзяржаўных і ўсіх іншых узнагарод належыць да грамадскіх арганізацый, дзе ўзнагароджаны найлепш вядомы. Сваю прапанову адносна Аўхіміка Уладзіміра прадстаўце на форум арганізацыі ЗБоВіД. Інфармацыю пра гаспадара з Піражкоў, які заараў сцежку на сваім полі і не пазваляе тудою хадзіць, таксама не апублікуем. Гаспадар мае права да свайго поля.

**Ірэна В.** Некаторыя вершы надрукуем у „Парнасіку“.

**М. Панфілюк.** Некаторыя вашы крытычныя матэрыялы непрадуманы, часам чапляецеся дробязей. Немагчыма выходзіць з такой крытыкай да... імення да каго? Двух інфармацый „Дарагія, а з недахопам“ і „Чалавечая дурасць“ не надрукуем. Адносна публікацыі „Аўтарскія сустрэчы“ — факт быў у хроніцы БГКТ.

**М. Лук'янюк.** Верш пра лістапад не надрукуем. Надта ж блытаны.

**М. В. Шчыты.** Чаму вы сваё пісьмо пішаце пад дыктоўку вядомага нам здаўна аўтара „заяў“. Вы ж маеце сярэднюю адукацыю і самі лепш патрапіце напісаць аб тым, што вам неабходна ведаць ад нас. У вашай справе раім звярнуцца ў бюро працы (бюро затруднення) у Бельску.

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

На шашы Э-12, паблізу гарадка Харошча, аўтобус, які ехаў з Беластока ў Варшаву ўдарыў Генрыка Д., які ішоў левай старaной. Пешаход памёр на месцы.

Па дарозе з Саколкі ў Беласток, каля вёскі Генiюшы, „Масквіч“ хацеў выперадзіць веласіпедыста. Яны стукнуліся і веласіпедыст, адкінуты на левы бок дарогі, папаў пад „Шкоду“, якая ехала насупраць. Усё закончылася смерцю веласіпедыста.

У Бельску на вул. М. Бучка „ВСК“ наехаў на пешахода, які ўвайшоў на вуліцу. Пешаход быў цяжка паранены і ў шпіталі памёр. А ў Беластоку на вуліцы Ліповай „Вартбург“ наехаў на малога Марка. Хлопчык увайшоў на вуліцу з-за стаячага на прыстанку аўтобуса. Параненага хлопчыка адвезлі ў шпіталь.

Таксама ў Беластоку жанчына з вёскі выйшла з-за стаячага аўтобуса на вуліцу. Наехаў на яе „Жук“. У выніку — паранена галава, зрушэнне мазгоў, паранены твар.

## Гарцэры з Супраслі

170 вучняў школы механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі належыць да ЗГП. Працуе там 6 дружын ГСПС. Апекуном з'яўляецца Юрка Рослан. Гарцэры ўжо год часу актыўна працуюць пры рамонце школы і інтэрнату. 20 найбольш актыўных гарцэраў удзельнічала ў вандроўным лагеры па Вармії і Мазурах. Яны таксама ўжо трэці год прымаюць удзел у акцыі „Бяшчады-40“.

У мінулым годзе гарцэры самі вырамантавалі сваю гарцоўку, і самі ў школьных майстэрнях зрабілі патрэбную мэблю.

У дружынах ГСПС працуюць чатыры клубы. Адным з найлепшых з'яўляецца гістарычны клуб, які апякуецца школьнай ізбай памяці. Гэта маленькі цікавы музей. У першай габлёце запісаны ўсе прозвішчы людзей з Супраслі родам, якія змагаліся за ўмацаванне народнай улады. Гэта: Мікалай Буднік, Станіслаў Харашэўскі, сям'я Гайдукоў — Уладзімір, Марыя і Сяргей, Язэп Матэйчук, Аляксандр Мойсак, Язэп Шыманскі. У наступнай габлёце паказаны шлях I дывізіі войска польскага імя Тадэуша Касцюшкі. Тут таксама жыхары Супраслі — Вацлаў Пэркоўскі, Эдвард Громан, Кастусь Бакуновіч. А вось заходні фронт — Монтэ Касіна. І зноў людзі з Супраслі — Браніслаў Шор, Язэп Дронжкевіч, Ігнат Яворскі.

На другім баку музея знаходзіцца рух супраціўлення. Тут спецыяльны куток, прысвечаны замардаваным з вёскі Лазні. Побач куточак тайнага навучання ў Супраслі, якое вяла Станіслава Рэцько.

Гаворыць апякун гарцэрскага шчэпу: „Нашы гарцэры дайшлі да 56 удзельнікаў змагання з немцамі, сабралі ўспаміны і дакументы. Бо гэта найважнейшая наша мэта — збіраць экспанаты для музея. Кожны год вучні збіраюць каля ста экспанатаў. З гэтага музея карыстаюць вучні на лекцыях гісторыі“. **(гай)**

## Святочны вечар

З нагоды 60-ай гадавіны Вялікага Кастрычніка ў чаромхаўскім доме культуры „Калеяж“ быў арганізаваны святочны вечар. Аб гістарычным значэнні Кастрычніцкай рэвалюцыі даклад прачытаў I сакратар гміннага камітэта партыі Станіслаў Фалькоўскі.

Пасля даклада духавы аркестр чыгуначнікаў выканаў некалькі твораў польскіх і савецкіх кампазітараў. У мастацкай частцы выступілі са сваёй праграмай беластоцкія „Каласкі“, якім на гармоніку падыгрываў Сяргей Капа. Канферанс'е вёў Янка Крупа. **(ус)**

## Пра вуліцу

За апошнія гады ў многіх месцах вёскі Крывяцічы зруйнаваўся брук. Таксама ўжо два гады цягнецца ўкладванне тратуараў. Усё гэта сведчыць аб негаспадарнасці сялян і гмінных улад. У Крывяцічах людзі маюць многа машын і маглі б навазіць хоць жвіру.

**Іван Кірызюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**ДА ПУБЛІКАЦЫІ „МАРНУЕЦЦА СЯЛЯНСКАЯ ПРАЦА І ГРОШЫ“, „Ніва“ № 44/1131 ад 30 кастрычніка 1977 года.**

**Адказвае:** Białostockie Przedsiębiorstwo Produkcji Leśnej „Las” w Białymstoku.

Białostockie Przedsiębiorstwo Produkcji Leśnej „Las” w Białymstoku w odpowiedzi na notatkę prasową, która ukazała się w tygodniku „Niwa” z dnia 30 października 1977 roku — informuje, iż prace przy budowie magazynu we wsi Wojnówka kontynuuje Zakład Produkcji Leśnej „Las” w Hajnówce. Zakończenie robót przewiduje się na koniec bieżącego roku.

**Dyrektor**
**Stefan Daszkiewicz**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

